Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 16 11-17 жніўня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Пад белымі ветразямі



**МЯДЗЕЛ.** ***Тры дні вабілі позірк мядзельчан і іхніх гасцей шматлікія белыя ветразі на возеры Мястра. Іх тут можна бачыць даволі часта, але не ў такой вялікай колькасці. Справа ў тым, што на базе Мядзельскай ДЮСШ праводзілася адкрытае першынство Мінскай вобласці па парусному спорту ў класе яхт «Аптыміст», «Кадэт» і «Прамень». Прынялі ўдзел у спаборніцтвах і мацнейшыя спартсмены з некаторых іншых абласцей рэспублікі.***

Пераважная большасць аматараў парус履нага спорту прыехала на Мядзельшчыну загадзя. Яны ўзмоцнена трэніраваліся, змястоўна адпачывалі. Жылі ў аздараўленча-спартыўным летніку, на турбазах у Гатавічах, райцэнтры. Некаторыя са спартсменаў спыніліся ў гасцініцы. Ужо ў дні спаборніцтваў госці пабывалі на Блакітных азёрах, звазілі іх і за малінай...

Усяго ў спаборніцтвах прынялі ўдзел звыш ста хлопчыкаў і дзяўчынах. Часцей за ўсё перамогу пасля стартаў святкавалі прадстаўнікі Мінскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы алімпійскага рэзерву. Менавіта яе выхаванцы — Аляксандр Бабенін, Наташа Еўтушэнка, Георгій Камароўскі, Аляксандр Ліпан — аказаліся самымі мацнейшымі ў сваіх класах яхт. З юнакоў на «Прамені» вызначыўся і Валерый Бобрык з Гродна, які паказаў найлепшыя вынікі.

Удзельнічалі ў спаборніцтвах і два прадстаўнікі Мядзельскай ДЮСШ — Міхаіл Тарасевіч і Ціхан Купрэвіч. Першы з іх выступіў даволі някепска — быў на «Аптымісце» чацвёртым з шаснаццаці яхтсменаў, якія стартавалі ў гэтым класе.

— Усе ўдзельнікі спаборніцтваў, судзейская брыгада, — расказвае старшы трэнер Мядзельскай ДЮСШ па веславанню на байдарках і каноэ Раман Тарасевіч, — засталіся вельмі задаволенымі. Яно і сапраўды, прыродныя ўмовы для правядзення падобных мерапрыемстваў у нас вельмі спрыяльныя. Таму ў перспектыве, па ўсёй бачнасці, спаборніцтвы па парусному спорту ў Мядзеле будуць праводзіцца часцей. А калі так, то і яхтсменаў сярод мясцовай моладзі стане больш, і матэрыяльная база ДЮСШ умацуецца.

*Наш кар.*

*На здымку: у час спаборніцтваў.*

*Фота М. Чарняўскага.*

## А можа, пустой казне і плошча дапаможа...




МАЛАДЗЕЧНА. Плошча Леніна, цяпер Цэнтральная плошча, практычна не ведала ад першага дня свайго існавання шоргату аўтамабільных шын— рух транспарту тут быў забаронены. Часы мяняюцца. З 11 жніўня гэтага года у базарныя дні — па серадах, пятніцах, суботах, нядзелях— з 6.00 да 14.00 тут будзе працаваць платная стаянка аўтамотатранспарту. Робіцца гэта па рашэнню гарвыканкома з мэтай адшукаць сродкі на ўтрыманне, добраўпарадкаванне горада, экалагічныя мерапрыемствы і ўпарадкаванне аўтамабільнага руху і стаянкі аўтамабіляў. Пры ўездзе на вуліцы імя Л.Талстога, Б.Хмяльніцкага будзе спаганяцца збор у памеры 1/20 мінімальнай заработнай платы. Частка фізічных і юрыдычных асоб вызваляецца ад гэтай платы. Сярод іх некаторыя катэгорыі інвалідаў, жыхары названых вуліц...

*Аддзел інфармацыі*

## Бацькі хацелі ведаць, што гаварылі іхнія дзеці перад смерцю

### Светлагорскі маньяк. Прыгавор вынесены

***СВЕТЛАГОРСК. 1 жніўня ў будынку светлагорскага гарадскога суда пачаўся працэс над светлагорскім маньякам, на рахунку якога забітыя падлеткі 9-13 год.***

Хто ж ён, забойца светлагорскіх хлапчукоў, злачынствы якога выклікалі ў людзей жах і гнеў? Міранкоў Ігар Аляксандравіч, нарадзіўся 28 мая 1969 года ў Светлагорску, атрымаў сярэднюю адукацыю, затым служыў два з паловай гады на флоце. У 1990 годзе асуджаны на тры гады за разбой і накіраваны на будоўлі народнай гаспадаркі.

Як устанавіла следства, за перыяд 1990-93 гг. Міранковым здзейснены шэраг грамадска-небяспечных дзеянняў, прасцей гаворачы, злачынстваў з асаблівай жорсткасцю ў дачыненні да непаўналетніх.

У абвінаваўчым заключэнні ў адносінах да падсуднага Міранкова даказана восем эпізодаў гвалтоўных сексуальных дзеянняў, з іх — шэсць забойстваў. Забойствы хлапчукоў падсудны здзяйсняў як шляхам удушэння, так і нанясеннем удараў складаным нажом. Пры гэтым часам не грэбаваў і асабовымі рэчамі пацярпеўшых. Як прызнаўся пазней Міранкоў, ён не раз прыязджаў на тыя месцы, дзе ім былі закапаныя забітыя хлопчыкі.

У ходзе допыту падсуднага было пацверджана, што з ша[illegible] забітых ім падлеткаў двое да гэтага часу не знойдзены па прычыне немагчымасці забойцы ўспомніць дакладнае месца іх пахавання.

Судом былі таксама дапытаны бацькі падлеткаў. З іх боку нямала пытанняў узнікала да падсуднага Міранкова. У асноўным бацькі хацелі пачуць ад яго падрабязнасці забойстваў сваіх дзяцей, хацелі ведаць, што яны гаварылі перад смерцю.

Пазаўчора на зыходзе дня нарэшце быў абвешчаны прыгавор, які слухалі з дынамікаў на вуліцы тысячы светлагорцаў. Міранкова чакае расстрэл. Абскарджваць рашэнне суда, як сказаў злачынца аўтару гэтых радкоў некалькі раней, ён не будзе.

*Мікалай ПАСЕДЗЬКА, СВЕТЛАГОРСК, газета «Ранак-плюс» спецыяльна для «Рэгіянальнай газеты».*

## Беларусь развіталася з Максімам Танкам

МЯДЗЕЛ. Пазаўчора ўся Беларусь развітвалася з адным з самых славутых яе сыноў— Максімам Танкам. На радзіму, у вёску Пількаўшчына, дзе па завяшчанню песняра яго хавалі, з'ехаліся сотні людзей. З'ехаліся, каб праводзіць у апошні шлях Яўгена Іванавіча Скурко, чыё гучнае паэтычнае імя Максім Танк пачула ў часы санацыйнай Польшчы ўся Еўропа. Апошні лісток календара жыцця Яўгена Іванавіча перагорнуты. Але колькі жыць Беларусі, столькі звярацца ёй па сумленню Багадановіча, Купалы, Коласа, Танка... Усведамленне гэтага будзе прыходзіць праз боль, расчараванне, веру, паэтычнае слова. Будзь пухам табе, Яўгене Іванавічу, родная нарачанская зямля!

***Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты».***

## Хлебная дарога

СМАРГОНЬ. Вуліца Камсамольская ў Смаргоні сённяшнім днём адметная не сваёй шырынёй ці назвай— яна адметная тым, што кожны, хто мае з сабою мех, можа гэты мех напоўніць збожжам па самыя берагі. Я не пераборшваю. Пасажыры аўтобусаў, што едуць тут, сярод якіх днямі давялося быць і мне— гэтаму сведкі. Прычына простая. Кажуць, што Камсамольская вядзе да камбікормавага завода. Калі хто не верыць— праверце. Рассыпанае дабро не дасць вам збіцца з дарогі.

***Мікола ГАЙДУК.***

Навіны рэгіёна

## Таня Акуцыёнак з Радашковічаў за адзін год скончыла два класы і пабывала на Кіпры

***Дзяўчынцы 11 год. Ёй аднолькава лёгка даюцца ўсе школьныя прадметы, і на падрыхтоўку дамашніх заданняў яна траціць не больш гадзіны. Неяк мама прапанавала дачцы-пяцікласніцы: «А давай паспрабуем здаць экстэрнам праграму і за шосты клас». Настаўнікі Радашковіцкай сярэдняй школы, што ў Маладзечанскім раёне, спачатку здзівіліся (такога выпадку яны больш не прыгадваюць), а затым вырашылі даць Тані дазвол на вольнае наведванне заняткаў.***

За апошнюю школьную чвэрць яна бліскуча — на адны «пяцёркі» — вытрымала пераходныя экзамены і стала сямікласніцай.

Асабліва ўдала атрымліваюцца ў дзяўчынкі сачыненні. Сведчанне таму — перамога ў рэспубліканскім конкурсе «Чарнобыль у маім лёсе», які праводзілі рэдакцыя газеты «Набат» і Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль». Танін твор увайшоў ва ўнікальны, цудоўна аформлены зборнік «След чорнага ветру», які акрамя беларускай, выйдзе на нямецкай і японскай мовах, а сама яна была ўзнагароджана пуцёўкай на востраў Кіпр.

Што за сям'я ўзгадавала такога вундэркінда? Таніна мама — Ніна Якаўлеўна — працуе эканамістам у мясцовай жыллёва-камунальнай гаспадарцы, тата — Віктар Пятровіч — зменны інжынер ВА «Міжгародняя сувязь». Акрамя старэйшай дачкі ў сям'і Акуцыёнкаў яшчэ трое сыноў. І ўсе чацвёра дзяцей вучацца на «выдатна».

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## Размянялі другое стагоддзе

***Самая моцная галінка на дэмаграфічным дрэве Валожыншчыны тая, што ў Даўбенях. У гэтай вёсачцы, непадалёку ад райцэнтра, амаль хата пры хаце, жывуць Гунэфа Казіміраўна Каранеўская і Якаў Раманавіч Кароль. Другое стагоддзе гартае каляндар іх лёсу. Гэтай восенню кожнаму з іх споўніцца сто адзін год.***

Два пакаленні вяскоўцаў выраслі за гэты час. Пенсіянерамі сталі іх дзеці. Свае сем'і маюць унукі. Цяпер Гунэфа Казіміраўна жыве ў сям'і зяця, Якаў Раманавіч доўжыць сваю старасць разам з сынам-пенсіянерам. Некаторыя галінкі радаводу даўбенеўскіх старажылаў ужо страцілі свае жыццёвыя сілы: адышлі ў жыццё вечнае «другія палавінкі» доўгажыхароў, паўміралі і некаторыя з дзяцей. Дарэчы, Гунэфа Казіміраўна іх нарадзіла пяцёра. Тым не менш, нягледзячы на свой пачцівы ўзрост, даўбенеўскія доўгажыхары стараюцца тое-сёе рабіць па хатняй гаспадарцы. Бо перакананы, што менавіта праца і стала асноўным «эліксірам» іх зайздроснага доўгалецця.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## «Дукат» будуецца ў Маладзечне

Як бы мы не скардзіліся на сённяшні час, але жыццё ідзе. І не толькі аднымі буднямі жывём. Здараецца, і святкуем.

Для супрацоўнікаў Маладзечанскага ФАКБ «Дукат» 8 жніўня стала тым святочным днём, аб якім марылі яны даўно. Ужо падчас прэзентацыі філіяла ў лютым 1994 года (нагадаем, што ён знаходзіцца ў былым памяшканні трансагенцтва па вул. Касманаўтаў) дырэктар яго Міхаіл Прыбалавец паведаміў прысутным аб планах узвядзення новага будынка. Планы гэтыя, як бачым, ажыццяўляюцца. У мінулы аўторак а 12-й гадзіне на перакрыжаванні Вялікага Гасцінца і вуліцы Міру, дзе выкапаны ўжо вялізны катлаван, сабраліся па-святочнаму апранутыя людзі. Тут адбылася цырымонія з выпадку закладкі першага каменя ў падмурак будынка, памятнай капсулы з пісьмом, дзе ўказаны дзень, месяц і год пачатку будаўнуцтва, чарцяжы, назва арганізацый, прозвішчы людзей, што праектавалі і пачынаюць ўзводзіць будынак.

Мітынг адкрыў М.П.Прыбалавец, які павіншаваў прысутных з гэтай падзеяй і паведаміў, што аб'ект плануецца ўвесці ў строй восенню наступнага года.

—Вельмі спадзяюся на будаўнікоў. Думаю, разам з імі нам удасца зрабіць усё магчымае , каб выканаць усе работы ў тэрмін і праз год адсвяткаваць наваселле,— сказаў у заключэнне М.П.Прыбалавец.

Затым да прысутных звярнулася першы намеснік старшыні праўлення АКБ «Дукат» Людміла Высоцкая, якая спецыяльна прыехала з гэтай нагоды ў Маладзечна. Людміла Міхайлаўна падкрэсліла важкасць таго факта, што філіял банка трывала ўсталёўваецца ў гэтым горадзе. І вельмі сімвалічна, сказала яна, што новы будынак філіяла ўзводзіцца якраз напярэдадні 5-годдзя з дня ўтварэння банка «Дукат».

У цырымоніі прынялі ўдзел і выступілі таксама начальнік УКБ гарвыканкома І.І.Кунцэвіч, архітэктар А.А.Утулкін, пад кіраўніцтвам якога распрацоўваўся праект, начальнік генпадраднай арганізацыі МПМК-212 «Маладзечнасельбуда» Л.Л.Селязень і іншыя.

*Вячаслаў ТАБУЛІН.*

***На здымках: дырэктар ФАКБ «Дукат» М.П.Прыбалавец перад закладкай у падмурак памятнай капсулы; так будзе выглядаць будынак філіяла банка ў Маладзечне.***

*Фота аўтара.*



## Сцеражыся аўтамабіля

5 жніўня гг. мясцовая смаргонская газета надрукавала наступны зварот аддзела міліцыі да чытачоў: «Адшукваецца аддзелам міліцыі без вестак прапаўшая Таццяна Генадзьеўна Ліс, 1962 года нараджэння... 21 ліпеня гг. Таццяна Ліс адганяла ў гараж аўтамабіль белага колеру ВАЗ-21099, дзяржаўны нумар З 68-03 ГК, і да цяперашняга часу яе месцазнаходжанне не ўстаноўлена...»

Як стала вядома, пазней труп жанчыны быў знойдзены на ўзлеску каля вёскі Мішуты Вілейскага раёна. Але пакуль няма адказу на пытанні: дзе аўтамабіль і хто здзейсніў злачынства?

*Альберт КУМІШЧА.*

У калідорах улады

# Старшыні Вілейскага гарвыканкома Пятру Юдо знаёмы галаўны боль. І боль гэты аб «Зеніце»

*— Прыйшоўшы на вучобу ў семдзесят пятым годзе ў радыётэхнічны інстытут, я пачуў імя Пятра Юдо— камісара вядомага у РТІ будатрада. Гэтае ж самае імя, але ўжо начальніка цэха, пачуў па прыходзе на работу на завод «Зеніт». Нядаўна споўнілася паўгода, як вы знаходзіцеся ў крэсле старшыні гарвыканкома Вілейкі. Кіраўнік— гэта прафесія?*

— Кіраўнікамі павінны станавіцца невыпадковыя людзі, тыя, хто ўмеюць арганізоўваць вакол сябе, якія ўмеюць аналізаваць. Думаю, што для кіраўніка вельмі важны такі момант, як самадысцыпліна, самааналіз, калі можаш падвесці вынік па кожнаму дню. Трэба ўмець знаходзіць агульную мову з людзьмі, кожным чалавекам. Без гэтага быць у добрым сэнсе бюракратам, чыноўнікам немагчыма. І, канечне, павінна быць жаданне да такой работы.

Грамадская работа ў інстытуце была не вельмі простай, неаплачваемай, шмат на яе аддаваў часу, але яна была цікавай. Тры гады камісарам у выязным будаўнічым атрадзе, вядома, далі вопыт. Пасля— заводы імя Вавілава, «Зеніт»— старшы майстар, начальнік цэха. Практычна ўсе вырабы «Зеніта», акрамя самых апошніх, прыйшлося асвойваць, знаходзячыся ля руля зборачнага цэха.

*— Мабыць, «Зеніт» дапамог асвоіцца з вельмі жорсткім рабочым рытмам, дысцыплінай. Не ведаю як цяпер працуе завод, хутчэй за ўсё не так як раней.*

— Не так. Раней кіраўнікам цэхаў, майстрам даводзілася працаваць па дзесяць-дванаццаць гадзін на суткі. У канцы месяца мы не бачылі ні выхадных, ні сям'і... Клопат быў адзін— як выканаць план. Хоць мы і скептычна сёння ставімся да гэтага паняцця, але ні адзін камерсант, бізнесмен, кіраўнік канцэрна не можа працаваць без плана. І я з удзячнасцю згадваю тагачаснага дырэктара завода Віктара Іванавіча Куксэнку, з якім давялося пачынаць працаваць на «Зеніце». Ён сваім прыкладам вучыў працаваць сумленна, аддана, быць прынцыповым кіраўніком, чулым да людзей.

*— Як часта сёння вам даводзіцца бачыць сваю сям'ю?*

— Жонка цяпер гаворыць: ну вось, чаго ты хацеў, што ў цябе няма ні хвіліны свабоднага часу, тое ты атрымаў. Зразумела— сям'я гэта твой тыл, а пра тылы забываць ніколі не трэба. Калі сям'я нармальная, то і праца куды больш цікавая. Што да сустрэч, то бачымся на світанку і позна вечарам.

*— Пётр Міхайлавіч, як часта тут, у вашым кабінеце, бываюць са скаргамі простыя, радавыя гараджане?*

— Практычна кожны дзень.

*— Ці добра гэта, што людзям ёсць на што скардзіцца?*

— Тады ў горадзе будзе добрая абстаноўка і парадак, калі добра будуць працаваць усе гарадскія службы. Большасць пытанняў, якія сцякаюцца ў выканком, гэта тыя, якія магчыма вырашыць ўнізе: праблемы жыллёва-камунальнай гаспадаркі, водаканалізацыйнага забеспячэння, гэта і работа аўтобусаў, і работа бюджэтных арганізацый, забеспячэнне гараджан малаком, хлебам... Выканком жа часам становіцца, з-за неразумення некаторымі кіраўнікамі іх ролі, тым месцам, дзе стыкуеш абсалютна дробязныя пытанні, каб яны былі вырашаны да канца. Прыкладаў таму шмат. Я не скарджуся, што яны забіраюць шмат часу, што не мой гэта ўзровень вырашэння...

*— Але эфектыўней, правільней яны б вырашаліся...*

— Правільней— слова тут дакладнае, правільней яны б вырашаліся на месцы. Прынцып работы ў выканкоме, у мяне як у старшыні, не вязаць новых вузлоў. Бо часам, пры няправільным прагнозе, вырашэнне адной праблемы можа прывесці да стварэння іншай. На жаль, не ўсё атрымліваецца. У нас вялікай праблемай застаецца работа і жыццё горада ў зімовых умовах. Бачым многія пытанні, якія трэба вырашаць, але, на жаль, той узровень бюджэта, які маем, не дазваляе вырашыць усё. Гараджане ж правільна разлічваюць на тое, што калі ёсць цеплавыя сеткі і кацельня, то апошнія павінны працаваць і забяспечыць горад цяплом.

*— Будучая зіма, па вашых прагнозах, лягчэй пройдзе для гараджан?*

— Я не магу сказаць, што яна будзе больш лёгкай па той простай прычыне, што так складваецца фінансавая сітуацыя.

У нас ёсць цяпер падыходы, займаецца гэтым пытаннем кіраўніцтва выканкома. Былі неаднаразовыя сустрэчы з кіраўніцтвам вобласці. Ідзе назапашванне паліва для гарадской кацельні. Адно пытанне застаецца адкрытым: пытанне аб уласніку кацельні. Цяпер гэта завод «Зеніт». Але прынята рашэнне аб перадачы яе ў Мінэнерга.

*— Гаворачы пра вузлы, якія з іх апошнім часам былі развязаны?*

— Напрыклад, работа рынка. Мы гаворым пра рыначныя ўмовы гаспадарання, а арганізаваць работу базара, у такім прыватным разуменні, да гэтага часу не маглі. Вілейчане-гандляры ехалі за два з лішкам дзесяткаў кіламетраў у Маладзечна, каб там вілейчанам-пакупнікам прадаць свой тавар. Цяпер работа базара адладжана. Думаю, што некальki лепш стала добраўпарадкаванне горада, хаця тут таксама ёсць праблемы. Не хачу сказаць, што гэты вузел да канца развязаны. Рыхтуем сустрэчу з кіраўнікамі, дзе думаем паказаць відэасюжэт, каб пераканаць, што яшчэ справы з добраўпарадкаваннем у нас пакуль благія.

*— А лягчэй развязваць вузлы, ці рассякаць?*

— Лепей развязваць. Сячы, рэзаць па жывому заўсёды балюча. Цяжэй развязваць, але трэба развязваць. Рассячы вузел... Ды гэта не ў маім характары. Не такі я ўжо рубака. Хаця, магчыма, часам трэба і рассякаць.

*— Вы нарадзіліся ў Вілейцы?*

— Так.

*— У тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят...*

— У тысяча дзевяцьсот пяцідзесятым.

*— Вілейка, вядома, змянілася за гэты час. Аб якіх пераменах у нашым горадзе вы шкадуеце?*

— Усё, што зроблена— гэта гісторыя... Што зробім мы— гісторыяй стане. Ацэняць нашчадкі. Цяжка сказаць, аб чым я шкадую. Тое, што з'явіўся такі гігант як «Зеніт»— не думаю, што гэта адмоўнае. Хаця трэба прызнаць, што сёння ёсць дзве праблемы ў нашым трыццацітысячным горадзе, якія вельмі турбуюць. Гэта праблемы забеспячэння створаных рабочых месцаў, загрузкі іх. І праблема жылля. У асноўным, праблемы гэтыя круцяцца вакол «Зеніта». Але адказваючы на ваша пытанне, скажу, што складана шкадаваць, што ёсць такое прадпрыемства. Лічу, што ўраду трэба дапамагчы аднавіць «Зеніту» абаротныя сродкі, каб выйсці з крызісу. Заказчыкі ёсць, канкрэтная праграма ёсць, але неабходна фінансаванне. Гарадскі бюджэт такіх сродкаў на сённяшні дзень не мае, патрэбны ўрадавыя рашэнні. Але іх пакуль няма.

*— Мабыць, таму, што такое прадпрыемства не адзінае ў рэспубліцы?*

— Мяне гэта не супакойвае. «Зеніт»— прадпрыемства, на якім трымаецца горад. Адказваючы на пытанне аб шкадаванні, можна было б сказаць, што не было б завода «Зеніт»— не было б сённяшніх праблем з ім. Але гэта будзе няправільна. Завод жа быў, працаваў, даў штуршок у развіцці горада. Тут і інжынерныя сеткі, і сацыяльныя пытанні— з'явіўся Дом культуры, пабудавана чацвёртая школа, будуецца басейн. З'явілася многа моладзі, была загрузка ў прафесійных вучылішчах. Моладзь у горадзе набывала прафесіі і ў горадзе атрымлівала рабочыя месцы. Сёння ж «Зеніт»— галаўны боль старшыні гарвыканкома, членаў выканкома і ўсіх вілейчан.

*— А вы многіх вілейчан ведаеце ў твар?*

— Вельмі многіх. Вельмі. Усё жыццё прайшло ў Вілейцы, з іх дванаццаць гадоў на самым буйным яе прадпрыемстве. Інакш і не магло быць. Пастаянныя сустрэчы, гутаркі на вуліцах, вядома— просьбы, рашэнні тых або іншых пытанняў. Мы, члены выканкома, сёння думаем, што калі ты кіраўнік, то абавязаны вырашаць абсалютна ўсе пытанні, забываючыся ў большасці выпадкаў, што абавязкі ляжаць на кожным з нас як грамадзяніне. Мы проста абавязаны выконваць тыя функцыі, якія ўскладзены на нас дзяржавай, калі гэта прадпрыемства дзяржаўнае, калі прыватнае— таксама працаваць на грамадства.

*Ад рэдакцыі. Аб'ём газетнай публікацыі не дазваляе больш падрабязна пераказаць гутарку журналіста з Пятром Юдо. За межамі яе засталося шмат тэм, якія абавязкова знойдуць сваё месца на старонках «Рэгіянальнай». Газета спадзяецца, што сустрэчы кіраўнікоў улады ў рэгіёне з чытачамі стануць рэгулярнымі.*

*Гутарыў Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

